Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана 25 гр
№ 1 (3) Вільня, 15 Лютага 1934 г. 1-8 Год II

# НОВЫ ШЛЯХ

Огран Беларускае Нацыянальна-Соцыялістычнае думкі

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Кальварыйская 16—2 (Wilno, Kalwaryjska 16 — 2). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях“ выходзіць раз у месяц, каштуе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр.
Цана абвестак паводле ўмовы.



## У ЧЫМ МЫ РАЗЫХОДЗІМСЯ З КАМУНІСТАМІ

За сродак да зьдзейсьненьня соцыялістычнага ладу марксысты ўважаюць дыктатуру гарадзкога пролетарыяту і вясковых парабкаў.

У абставінах савецкай рэчаістасьці гэтая дыктатура „пролетарыяту“ падменена, фактычна, дыктатураю камуністычнай партыі.

Гэтакім чынам, самі камуністы адступілі ад засады, каторая была палажана ў аснову марксоўскай тэорыі адносна спосабаў кіраваньня дзяржаваю пасьля соцыяльнай рэвалюцыі.

Трэба прызнаць, што наагул дыктатура пролетарыяту нават у чыстым сваім выглядзе, без таго зьняшпэчаньня, якое наглядаецца ў Саветах, ня можа быць прызнана мэтаадпаведнаю ва ўсіх дзяржавах.

Маркс і Энгельс, прагаласіўшы яе як адзіны сродак, пры дапамозе каторага сучасны капіталістычны лад можа быць пераведзены на соцыялістычны, мелі на ўвазе краіны з разьвітымі формамі капіталістычнага гаспадараваньня, дзе работніцкая кляса, запраўды, мае вялікую вагу.

Калі яшчэ магчыма гутарыць пра дыктатуру пролетарскай большасьці над непролетарскай меншасьцю, у прамысловых краёх, дык поўнаю недарэчнасьцю зьявілася-б дыктатура пролетарскай меншасьці над сялянскаю большасьцю ў аграрных.

У гэтым апошнім выпадку дыктатура пролетарыяту прыймае пачварныя формы гвалту і розных зьдзекаў з боку арганізаванай меншасьці над неарганізаванаю большасьцю.

Падобныя зьявішчы мы можам наглядаць на працягу ўсей сусьветнай гісторыі, пачынаючы, напрыклад, з Эгіпту, дзе фараоны апіраючыся на ўзброеную меншасьць, маглі трымаць у прыгонным стане ўсё насельніцтва—і дзеля таго камуністычны рэжым у Саветах ня можа для нас быць навіною...

Мы склонныя сумлявацца, каб пры дапамозе прыгонных мэтадаў удалося завесьці соцыялістычны лад, як такі лад, дзе кожная паасобная адзінка магла-б гарманійна разьвівацца і дзе ўзмацняліся-б культурныя формы жыцьця.

З гэтага, аднак, не выплывае, што мы зьяўляемся прыхільнікамі мягкацелага лібэралізму.

Мы трымаемся таго пагляду, што для перабудовы клясовага грамадзянства ў соцыялістычнае запраўды патрэбна моцнае і аўтарытэтнае кіраўніцтва дзяржаўнымі справамі, каторае павінна знаходзіцца ня толькі ў руках пролетарыяту, але ў руках усіх працоўных, бо ўсе працоўныя наагул—сяляне, работнікі, дробныя рэмесьнікі, інтэлігэнцыя і іншыя ў аднолькавай меры зацікаўлены ў пераарганізацыі сучаснага грамадзкага ладу.

Сумліўнаю для нас зьяўляецца тая акалічнасьць, каб толькі гарадзкі пролетарыят разам з вясковымі парабкамі былі найбольш здольнымі да такой перабудовы.

Шмат прамаўляе за тое, што гэты самы пролетарыят не зьяўляецца аднолькаваю, што да сваіх ідэолёгічных настрояў, масаю.

У адных выпадках мы бачым верхавіну пролетарыяту, якая вельмі ахвотна дзеліць прыбылі сумесна з капіталістамі і нічога ня мае проці экспляатацыі колёніяльных народаў, а з другога боку бачым г. з. люм-

пэнпролетарыят, на якім пераважна апіраюцца камуністы і які вызнае ідэолёгію камунізму-падзелу і вышэй гэтага зразумець нічога ня здольны. Прызнаючы права на кіраўніцтва дзяржаваю і на социялістычную перааргінізацыю ўсяго грамадзкага ладу за ўсімі працоўнымі мы, аднак, лічым, што толкі арганізаваныя масы працоўных (а тым самым і грамадзкі сьвядомыя) абдароныя да таго адпаведнымі здольнасьцямі.

Тая-ж маса працоўных, каторая яшчэ не дарасла да ўяўленьня сабе патрэбы ў арганізацыйных формах жыцьця—скідаецца з нашага рахунку.

Вось дзеля чаго мы мусім зьвяртаць самую вялікю ўвагу на ўцягненьне ў розныя арганізацыі, як гаспадарчыя так і культурна асьветныя, працоўных масаў, каторыя павінны прайсьці там грамадзкі-ўзгадавачую школу.

Моцныя арганізацыі працоўных створаць здаровыя падставы да будачай перабудовы социяльна-эканамічных суадносінаў, а адначасна застрахуюць грамадзянства ад небясьпекі гегемоніі пролетарыяту і яго „авангарду“ камуністычнай партыі.

Камуністычная тэорыя, зарадзіўшаяся ў прамысловых краёх—Англіі і Нямеччыне—аказалася зусім неадпаведнаю ў аграрных. Трагэдыаю камуністычнае ўлады ў Саветах зьяўляецца поўная яе няўдольнасьць да вырашэньня аграрнага пытаньня, у выніку чаго ў гэтай, некалісь багатай на хлеб краіне наглядаюцца сыстэматычныя галадоўкі.

Камуністы захапілі ўладу ў сялянскай Расеі, ня маючы добра распрацованай і прадуманай аграрнай праграмы.

Дзякуючы гэтай, фатальнай для іх акалічнасьці, там стасаваліся розныя аграрныя тэорыі, каторыя пярэчылі адна другой.

Калі параўнаем, напрыклад, пагляды Леніна, казаўшага што, социялізм на вёсцы гэта ёсьць лад цывілізаваных коопэратараў“ з тым, зусім далёкім ад цывілізацыі, фараонаўскім прыгонам, які завёў ягоны вучань Сталін, дык пабачым якія разьбежнасьці ў паглядах існуюць паміж самых камуністычных верхаводаў.

Разглядаючы савецкае дасьведчаньне ў гэтаў галіне, мы павінны пераканацца, што немагчыма прыступаць на вёсцы да разбудовы социялістычных адносінаў, ня маючы тэорэтычна-распрацаванай аграрнай праграмы, здольнай зрэалізаваць у жыцьці гэтыя адносіны.

Мы лічым, што ператварыць сучасную вёску ў калектывістычную—справа ня лёгкая, але разам з тым і не безнадзейная. Перадусім, трэба яе скоопэраваць, сялянскія масы трэба перавыхаваць і падняць культурна, бо социялізм на вёсцы запраўды ёсьць нішто іншае як лад цывілізаваных коопэратараў.

Яго ня можна ўвесьці, калі насельніцтва пазбаўлена элемэнтарнай культуры. Сьмешнымі з гэтай прычыны зьяўляюцца для нас савецкія спробы ўвесьці социялістычны лад на вёсцы ў працягу некалькі гадоў, карыстаючыся як „выхаваўчым“ сродкам грабяжамі і рознымі гвалтамі адносна сялянскай масы.

У гэтым мы таксама рэзка разыходзімся з камуністамі, залічаючы іх да рэакцыйных сілаў, каторыя затрымліваюць нармальнае разьвіцьцё прогрэсыўных пачаткаў у вясковым жыцьці, якія пры іншых не савецкіх умовах, маглі-б прывесьці сялянскія масы да лепшай будучыні.

Трудна пагадзіцца і з камуністычнаю тактыкаю адносна выкліканьня сусьветнай рэвалюцыі.

У гэтым кірунку яны робяць колёсальныя высілкі, пакладаючы надзеі на некультурныя і адсталыя краіны, дзе, на наш пагляд, магчыма вытварыць хаос і анархію і дзе пакуль што немагчыма пабудаваць нешта падобнае да социялістычнага ладу.

Гульня камуністаў у „сусьветную рэвалюцыю“ высмоктвае ўсе жывыя сокі з працоўных савецкіх масаў, дзякуючы чаму разбудова запраўдных культурных вартасьцяў выяўляе ў іх вельмі слабы поступ.

Пананаваньне социялістычнага ладу павінна распачацца з цывілізаваных і культурных краінаў, тэхнічна да таго падгатаваных—вось дзеля чаго, між іншым, гэты лад ня мог прышчапіцца ў Саветах, вытварыўшых, фактычна, дзяржаўны капіталізм і прыгон.

Немагчыма раўнадушна аднясьціся і да мэтадаў карацельнай палітыкі камуністычнай улады.

Крывавы і масавы тэрор, стасаваны ёю адносна савецкага грамадзянства ў выніку сваім акрамя ўсяго іншага, панізіў маральны ровень гэтага апошняга, стварыў нездаровую грамадзкую атмасфэру, у ядавітых іспарынах каторай душацца ўсе.

Ня можам паверыць у тое, каб сьведамасьць і свабодную волю народу, якія патрэбны пры разбудове социялістычнага ладу, можна было замяніць нясьведамым выкананьнем прыказаў згары, падмацаваных жорсткімі і крывавымі рэпрэсыямі.

Савецкі тэрор ня толькі жудасны з пункту гледжаньня маральных паняцьцяў людзкасьці, але і шкадлівы і зусім непатрэбны з пункту гледжаньня запраўднай соцыялістычнай ідэолёгіі.

Тое, што творыцца ў сучасных Саветах можна вытлумачыць толькі тымі вырахаваньнямі, якімі кіраваліся заўсёды ўсе тыраны, за ўсялякую цану стараючыся ўтрымацца пры ўладзе, ня лічучыся зусім з інтэрэсамі народу.

Не ўспамінаючы ўжо пра масавыя крывавыя расправы, маючыя характар людзкай бойні, савецкі тэрор выяўляецца не як карацельна—ўзгадаваўчы сродак а як старажыдоўская помста, паскольку мы бачым розных ліпэнцаў, рэпрэсіі проці дзяцей хрысьціянскага духавенства і „буржуазных" класаў у постаці, напрыклад, пазбаўленьня іх права на навуку і цэлы рад таму падобных барбарскіх мераў.

Усё гэта настолькі агідныя зьявішчы, абсалютна несумесныя ні з якою культураю, што яны дашчэнту кампрамітуюць як савецкіх камуністаў, так і саму ідэю марксоўскага соцыялізму разам з ягонаю дыктатураю пролетарыяту.

Трэба аддаць справядлівасьць, што савецкія камуністы запраўды выклікалі ва ўсім сьвеце сярод люмпэнпролетарыяту і розных іншых падонкаў грамадзянства бунтарскія настроі, але затое яны значна падарвалі веру сярод шырокіх колаў працоўных у соцыялістычны ідэал наагул.

Камуністычная партыя дзякуючы сваяму барбарству ў Саветах ператварылася ў сусьветнае пугала, якое ўстрымлівае перабудову сучаснага грамадзянства на лепшых падставах.

Арганізаваныя і грамадзкі-сьвядомыя колы працоўных у шмат якіх выпадках змушаны адмаўляцца ад „офэнзыўных" крокаў у кірунку такой пераарганізацыі, баючыся ўтручэньня і дапамогі з боку анархa-камуністычных элемэнтаў, гуляючых на самых ніскіх і дзікіх інстынктах душы чалавека.

Усё гэта разам узятае змушае кожнага запраўднага соцыялістага ў імя зьдзейсьненьня сваяго ідэалу, рэзка разыйсьціся з камуністамі і весьці з імі барацьбу, як з сілаю рэакцыйнаю.

С. Булат

---

**Беларусе, ведай і памятай, што найгалаўнейшым віноўнікам палітычнай цемры нашага народу ёсьць рускі поп і польскі ксёндз.**

# ШТО НАС УРАТУЕ

(Пачатак гл. у № 2. 1933 г.).

Такія клічы, як адраджэньне беларускага народу, ягоная незалежнасьць ёсьць для марксістаў рэчай непатрэбнай, нават шкоднай „марксісты ніколі не дазволяць закруціць сабе галаву нацыянальным лёзунгам". (Ленін. Рабочая правда 16 VII 1913 г.) Нават аб нацыянальнай культуры марксісты гавораць гэтак: „сьвядомыя рабочыя зразумелі, што лёзунг „нацыянальнай культуры" ёсьць клерыкальнае буржуазнае ашуканства". „Аб нацыянальнай культуры могуць гаварыць толькі клерыкалы, або буржуа. Працоўныя гушчы могуць гаварыць толькі аб інтэрнацыянальнай культуры сусьветнага рабочага руху". (Ленін. Аб нацыянаньным пытаньньні стр. 54).

Як бачым, Марксоўскі соцыялізм нас ня толькі не ўратуе ад дэнацыяналізацыі, але яшчэ можа ўскорыць яе. Каб гэтага ня было нам трэба мець свой уласны соцыялізм беларускі, які насупроць міжнароднаму, выключаючаму нацыяналізм, пазволіць нам супроць дэнацыяналізацыі супроцьставіць свой нацыяналізм.

Гаворачы пра гэты апошні, трэба адрожніць нацыяналізм агрэсыйны ад абароннага Абаронны нацыяналізм ёсьць канешным кожнаму народу, якому пагражае асыміляцыя. Ён ніколі ня можа быць шкодным, але адсутнасьць яго ў народа дэнацыяналізуючагася—пагражае сьмерцю гэтаму апошняму.

Народ, каторы не праяўляе пэўнага фізычнага, або духовага імпэту, ці абароннага змаганьня—гэта ўжо народ мляўкі, народ аджыўшы сваё.

Нацыяналізм народу паднявольнага заўсёды носіць характар абаронны, хаця-бы ён выступаў нават дзе-недзе ў форме агрэсыўнай.

Беларускі нацыяналізм ёсьць нам канешным і носіць характар абаронны.

На нашае нацыянальнае жыцьцё пасягае польскі і расейскі нацыяналізм. Чым-жа мы можам змагацца з імі? Ідэямі міжнароднага соцыялізму? Ці-ж мы ўцякаючы ад дэнацыяналізацыі, маема ўлівацца ў 2 або 3 Інтэрнацыянал?—Усё гэта нас не абароніць ад асыміляцыі на карысьць польскага і расейскага народу, і не пазволіць нам збудаваць сваей незалежнай дзяржавы, бо ведама, што „мэтай соцыялізму (марксоўскага прып. наш.) зьяўляецца ня толькі зьніштожыць раздробленасьць чалавецтва на дробныя дзяржавы

і ўсякае адасобленасьці нацый, ня толькі зьблізіць нацыі, але аб'яднаць іх." (Ленін. Аб нацыянальным пытаньні. стр. 69.)

Але як раз вось гэтае аб,яднаньне можа быць карысным толькі народам нацыянальна сільным, а слабейшыя і меншыя, па думцы марксізму, павінны асымілявацца, заміраць.

Маема ў Б.С.С.Р. дыктатуру пролетарыяту. І што-ж? Там як і раней ідзе русыфікацыя і... полёнізацыя; і няма нават магчымасьці бараніцца ад дэнацыяналізацыі—гэта нац.—дэмаўскі ўхіл—праступак, што вядзе ў Салоўкі. А дзеля таго, што кожны паляк, белы ці чырвоны, мае сваю нацыянальную амбіцыю, у душы, паміма зьместу грамадзкага ладу, гадуе свае нацыянальныя імкненьні, дзеля таго, што польскі элемэнт у Б.С.С.Р. паміма меншасьці, нацыянальна моцны—дзеля таго там можа паўсгаваць проект польскага Койданаўскага рэёну ў самым цэнтры Беларусі. Палякі і там выкарыстоўваюць касьцельна — „польскую"чмуту, якая цёмным беларускім каталіцкім масам угаварывае, што яны каталікі, значыцца польскія.

Урад Б.С.С.Р. не аскаржыў ініцыятараў польскага Койданаўскага ,рэёну ў нацдэмаўшчыне, а лічыўся паважна з неўсьведамленьнем каталіцкіх беларускіх масаў Койданаўшчыны. Гэта відавочны абразок, як сільны нацыянальным духам народ можа з паводжаньнем правадзіпь свае нацыянальныя імненьні нават у абставінах здавалася-б некарысных.

Калі полёнізацыя каталікоў ня можа спыніцца ў Б.С.С.Р дык якая-ж яна была-бы ў П. С. С. Р.? На гэтае пытаньне хай ад кажа самы выдатны польскі камуніст І. Б. Мархлеўскі, які быў ужо назначаны бальшавікамі, ідучымі на Варшаву ў 1920 г., галавой бальшавіцкага польскага ўраду: „Расовая група, зьяўляючаяся меншасьцю ў серадовішчы іншай расы, у каторым жыве, усасываецца гэтым серадовішчам, калі ня будзе патрымоўвацца штучна яе асобленасьць.

Супроцьдзеяць гэтаму прогрэсу можна толькі сродкамі больш — менш штучнымі, вынікам каторых заўсёды будзе марнаваньне сілаў работніцкай клясы, адварачываньне думак ад барацьбы з палітычнай і грамадзкай рэакцыяй, дзеля гэтага ня сумляваемся, што гэтыя налёты нацыяналізму, будуць сьцёртыя праз самае жыцьцё". (Dr. I. B. Marchlewski. Antysemityzm a robotnicy. str. 83).

Як бачым нас беларусаў польскія камуністы, паводле слоў самага Мархлеўскага, „усасывалі-б", а барацьба за сваё нацыянальнае жыцьцё ўважалася-б за рэакцыю.

Русыфікацыя і полёнізацыя не магла-б спыніцца і ў нейкім іншым соцыялістычным ладзе бяз выяўленьня беларускага нацыянальнага характару.

Польскаму і расейскаму нацыяналізму, усёроўна белага ці чырвонага колеру, трэба супроцьставіць беларускі. А соцыялізм, каб быў карысным нацыянальна беларусам мусіць быць нацыянальны па духу, а ня толькі па форме, як кажуць камуністы.

Беларус сьпярша павінен стацца моцным нацыянальна, гордым са сваей нацыі, а пасьля—соцыялістам і то беларускім, а не марксоўскім.

Беларусы ў вялікай большасьці—сяляне і стасункова маленькая частка парабкаў і гарадзкога пролетарыяту, каторы, на жаль, лічыць сябе польскім ці расейскім, залежна ад рэлігіі, бо рэкрутуецца пераважна з нясьведамага вясковага элемэнту, каторы прыехаўшы за працай у горад і атрымаўшы такую, пачынае лічыць сябе за штось лепшае ад „мужыка", за штось бліжэйшае да панс касьці.

У гэтым выяўляецца трагічна-сьмешны парадокс: паводле марксістаў трэба залічаць беларускіх сялян да рэацкыйнай клясы, тады як у рэчаістасьці пролетарыят беларускіх гарадоў ёсьць рэакцыйнейшым за сялянства. Фабрычна-завадзкі работнік лічыць сябе са штось лепшае і вышэйшае ад селяніна, а слова „мужык" у вуснах гарадзкога работніка выгаварываецца з пагардай.

І сапрауды, жыцьцё беларускага селяніна стаіць на ніжэйшай ступені ад жыцьця гарадзкога работніка, а работніка захаду і параўнаць нельга. Сын нашага селяніна лічыць за кар'еру ўстроіцца ў горадзе.

Калі зноў устроіцца, ці як кажа Маркс „спролетарызуецца", дык пераважна перастае гаварыць пабеларуску і лятуціць аб панскасьці.

Усё гэта зазначаем, каб паказць якія ў нашым краі спэцыфічныя грамадзкія абставіны, да каторых нельга прытасоўваць марксоўскі шаблён. Калі гаварыць пра клясы, дык у нас найніжэйшай клясай, паводле жыцьцёвай ступені, ёсьць селянін, калі ня будзем лічыць жабракоў і парабкаў.
Гарадзкі беларускі пролетарыят зьяўляецца пераважна рэакцыйнейшым ад сялянства і губіць па большай часьці свой нацыянальны твар.

Вымогі і абставіны беларускага пралетара рожняцца ад вымогаў пролетара захаду. Селянін і работнік захаду, калі так можна выразіцца, ёсьць буржуем у параўнаньні з беларускім.

Марксісты скажуць, што сусьветны пролетарыят паможа беларускаму. Калі і паможа, дык дзеля таго, каб яго выкарыстаць, каб засяліць ягоныя пушчы, каб выкарыстаць ягоныя палі для зямельнага голаду, які адчуваецца на захадзе.

С.С.С.Р.— дзяржава пролетарская, з дыктатурай гэтага-ж, матка III інтэрнацыяналу. Здавалася-б яна павінна надта руліцца пра сусьветны пролетарыят. А што ёсьць? Яна дбае перадусім пра сябе, творыць свой дзяржаўны капіталізм, для нутранай мэты робіць саюз з манархістычнымі дзяржавамі і, можна сказаць, вытварае ў сябе, мо' і нясьведама, свой рускі камунізм. Гэта даўно ўжо дагледзіў адзін з галоўных тварцоў гэтай пролетарсай рускае дзяржавы Троцкі, за што апынуўся на выгнаньні.

Гэты маскоўскі камунізм мае гэгэмонію над камуністамі іншых народаў і праяўляе рускае нацыянальнае захопніцтва. Ленін яшчэ перад сусьветнай вайной гардзіўся са сваей нацыянальнасьці, калі казаў: „І мы, вялікарускія работнікі, поўныя пачуцьця нацыянальнага гонару, хочам як-бы там ня было, вольнай і незалежнай, самастойнай, дэмакратычнай, рэспубліканскай, ганорнай Вялікарасеі...“ (Ленін: Аб нац. пытаньні, ст. 63)

Пасьля кастрычнікавае рэвалюцыі гэты вялікарускі нацыянальны гонар настолькі сябе праяўляў, што Ленін аб гэтым так выражаўся: „паскрабі іншага камуністага, а знойдзеш вялікарускага шовіністага.“ (Там-жа стар. 97)

Але гэта справа расейцаў. Мы павінны тварыць свой беларускі соцыялізм, каторы, бы адпавядаў нашым абставінам. Абставінам ганебным, змушаючым змагацца ня толькі супроць вызыску капіталізму, але і супроць дэнацыяналізацыі. Да чаго сьведама імкнуцца прагавітыя нашыя суседзі, усёроўна чырвонага ці белага колеру.

Толькі свой соцыялізм нас уратуе, бо марксоўскі зьяўляецца ворагам нацыяналізму. Праўда, ён застаўляе кожнаму народу яго нацыянальную форму, але адбірае ягоную нацыянальную душу, пакідаючы толькі форму, як бязжыцьцёвую вопратку.

Наш народ нацыянальную вопратку—мову — мае, але яшчэ ня мае нацыянальнае душы, супроць якой якраз выступае марксоўскі соцыялізм. За тварэньне гэтае душы— напоўнены беларускімі барацьбітамі бальшавіцкія вастрогі і выстраены шэрэнгі безработнай галадаючай беларускай інтэлігэнцыяй ў гарадох З. Беларусі.

Навука соцыялізму ня можа быць усясьветным дагматычным шаблёнам, усюды аднолькава прытарнованым. Гэтую самую думку высказывалі нават Маркс і Энгельс славамі: „Навука наша ня ёсьць догматам, але паказьнікам для дзеяньня. (Lenin. Dziecięca choroba lewicowości. st. 76.) Але як бачым вучні Маркса і Энгельса зрабілі з іхняй навукі шабляновы догмат.

Паказьнік абставінаў і інтэрэсаў беларускага народу—павінен казаць яму дзеяць так а ня інакш.

Беларускі земляробскі край зусім не адпавядае вымогам, якія патрэбны для зьдзейсьненьня марксоўскай тэорыі.

Наш край сялянскі, а не пролетарскі.

Паводле выжэй сказанай тэорыі трэба, было-бы беларускае сялянства штучна перарабляць на пролетараў, як гэта робіцца цяпер у Расеі. А такая штучная пераробка ў нашых ганебных абставінах, пагражала-б дэнацыяналізацыяй беларускага народу.

Дзеля гэтага **супроць чужога і свайго капіталізму мы павінны супроцьставіць свой соцыялізм.**

**Супроць чужога нацыяналізму—свой нацыяналізм.**

Ул. К.

## БУДЗЕШ НЕЗАЛЕЖНАЙ

**Няшчасныя дзеі Цябе гартавалі
І сілу давалі ў нядолі бязменнай—
Ты мусіш паўстаці мацнейшай ад сталі,
І быць Незалежнай.
Хаця-б Цябе пекла ўсе сілы таптали,
Трымалі ў няволі рукою жалезнай—
Ты мусіш паўстаці мацнейшай ад сталі,
І быць Незалежнай.
Раней ці пазьней, Ты зьбярэш свае роты
І пойдзеш у бой аканчальны, вызвольны.
Тады сьвет пачуе маланкі—грымоты
З пярунаў, што пусьціць народ паднявольны
І злыдняўску страшну пачуе сьвет зьвягу,
І зьдзіўлена ўбачыць працоўных адвагу,
Што сьцяг свой крывавы адважна паднялі
І пліту няволі звалілі жалезну.
Тады Ты паўстанеш мацнейшай ад сталі,
Каб быць незалежнай.**

Казлоўшчык

# PADZIEI u NIAMIEČČYNIE

Padziei, jakija my u praciahu apošnich časoŭ nahladaem u Niamieččynie pawinny wyklikać ŭ nas najwialikšaje zacikaŭleńnie.

Tam idzie żorstkaja baraćba dwuch siłaŭ: adnaje, katoraja kirujučysia maskoŭskimi „dyrektywami" imkniecca nakinuć Niamieččynie sawiecka-kamunistyčny ład — i druhoj, wyrasšaj i ŭzmacniŭšajsia na našych wačoch, katoraja budučy skansalidawanaju wolaju nacyjanalna-dumajučaha hramadzianstwa—ratuje nia tolki swoj narod, ale i ŭwieś świet ad najwialikšaj niebiaśpieki, jakaja jamu pahrażaje.

Hetaja apošniaja siła wyklikała stolki złoby i nienawiści siarod swaich worahaŭ, straciŭšych usiakaje pačućcio ab'jektyŭnaści, što zapraŭdy pierad biełaruskim hramadzianstwam staić nielohkaja zadača znajści prawidłowuju i biesstaronniuju rascenu tych padziejaŭ, świedkami katorych my źjaŭlajemsia.

Kali dobra ŭhladziecca ŭ hetyja padziei, to pieradusim dajecca zaŭważyć uzmacnieńnie nacyjanalnaj świedamaści i pačućcia nacyjanalnaha honaru nia tolki siarod hramadzkaj „elity" ale što najhałaŭniejšaje, siarod šyrokich narodnych masaŭ niamieckaha narodu.

Uźmacnieńnie nacyjanalnaj idei i jaje pašyreńnie było histaryčna patrebnym, bo jano prywiało da pieramohi nad umysłowaju anarchijaju, katoraja padtrymliwałasia kamunistyčnym Internacyjanałam.

Treba wiedać, što ŭ praciahu apošnich 15 hod mižnarodnyja adnosiny ŭłażylisia ŭ taki sposab, što nacyjanalnamu honaru niemcaŭ byŭ naniesiany mocny ŭdar.

Wajna zakončyłasia saromnym miram, kalonii i flot byli stračany, prapaŭ kapitał, ułożany ŭ zahraničnych bankach i pradpryjemstwach, a ŭ dadatku była nałożana takaja kantrybucyja, katoraj nie nahladałasia jašče ŭ świecie.

Pačaŭsia nutrany razwał i palityčny chaos, jaki świedama pahłyblaŭsia roznymi ciomnymi siłami, spekulawaŭšymi na narodnym niaščaści.

Stwaryŭsia wielmi padatny hrunt da internacyjanalna—kamunistyčnych upływaŭ i my bačym, što da kiraŭnictwa dziaržawaju dachodziać marksysty, dapuściŭšyja żydoŭski element wa ŭsie pory hramadzianskaha życcia.

Razpačałosia epocha nadzwyčajnaj spekulacyja i lichwiarstwa. Ni ŭ adnoj dziaržawie na świecie nie bralisia takija wysokija pracenty, jak u Niamieččynie.

Haspadarawańnie marksystaŭ prywiało da masawych bankructwaŭ, niamieckaje sialanstwa było zrujnawana i nia mieła mahčymaści da dalejšaha isnawańnia. Armija biespracoŭnych rasła i asiahnuła 6 miljonaŭ čaławiek.

Adnačasna z hetym kamunisty, z kožnym dniom uzmacniaŭšysia, adkryta hatawalisia da zachwatu ŭłady i ŭstanaŭleńnia swajej dyktatury.

Narod, katory nie chacieŭ biassłaŭna zyjści z histaryčnaj widoŭni musiŭ šukać ratunku i znašoŭ jaho ŭ nowym kirunku hramadzkaj dumki, jaki abjadnaŭ toje, što zdawałasia raniej niemahčymym da abjadnańnia—socyjalizm z nacyjanalizmam, ale nia toj socyjalizm marksoŭskaj daty, jaki kančalna zbankrutawaŭ, a nowy, dapasawany jak da asabliwaściaŭ narodu, siarod katoraha jon maje ździejśnicca, tak i da wymohaŭ sučasnaj epochi.

Niamieckija nacyjanał-socyjalisty wystupajuć na hramadzkuju widoŭniu ŭ charaktary rašučych praciŭnikaŭ kamunistaŭ, masonaŭ i żydoŭ ličačy, što hetyja elementy najbolš pryčynilisia da ŭsich niaščaściaŭ.

Pačynajecca epocha heraičnaj baraćby, dzie na adnoj staranie barykady stajać kamuisty i siły ich padtrymliwajučyja, a na druhoj—niamieckija patryjoty, abjadnaŭšyjasia na hruncie nacyjanał-socyjalistyčnaj ideolohii. U Berlinie, Leipcyhu, Kelnie i cełym rodzie inšych haradoŭ krywawyja bai pamiž nacyjanał-socyjalistami i kamunistami nie spynialisia.

Ale jak-by mocnaja nia była ŭ niamieččynie kamunistyčnaja partyja, jana zmušana ŭstupić pierad wytrywałaściu, dyscyplinaju, a hałoŭnaje pierad kolkasnaju pierawahaju hitleroŭcaŭ, za katorymi idzie studenckaja moładź, ramieśniki, rabočyja, sialanie i naahuł uwieś niamiecki narod.

Rady kamunistaŭ radziejuć nia hledziučy na toje, što kamunistyčny Internacyjanał kładzieć nadzwyčajnyja wysiłki i tracić kolosalnyja hrašowyja sumy na padtrymańnie niamieckaj rewalucyi. 30 studzienia 1933 h. paśla rašučaj wybarnaj pieramohi nacyjanał-socyjalisty, atrymaŭšyja najwialikšaju kolkaść hałasoŭ, zabrali kiraŭnictwa dziaržawaju ŭ swaje ruki, a sam Hitler wystupaje z hetaha času ŭ roli kanclera Niamieččyny.

Pačynajecca heneralnaja čystka katoraja wyklikała abureńnie ŭsiaho „cywilizawanaha" świetu.

Dziŭny, adnak, hety świet, katory jakbyccam nia bačyć taho, što prarablajuć kamunisty ŭ Sawietach i katory wykazwaje nadzwyčajnuju humannaść adnosna tych chto choča da asnowy zrujnawać hety samy świet z jahonaju humannaściu i cywilizacyjaju.

Toje, što my nahladajem ciapier u hitleraŭskaj Niamieččynie i ŭ tysiačnaj doli nie napaminaje nam krywawych sawieckich padziejaŭ.

Praŭda, kamunistaŭ sażajuč tam u turmy, ale robiać heta tolki tamu, što jany šykawalisia da horšych učynkaŭ, majučy namier zalić krywioju niamieckaha narodu ŭwieś kraj.

Hitleroŭski režym budzie apraŭdany historyjaju tym balei, što za jaho wykazałasia bolšaść niamieckaha narodu padčas apošnich wybaraŭ.

Hetaha nia možna skazać pra teror kamunistaŭ u Sawietach, dzie niewialikaja častka ludziej abjadnałasja, kab trymać proci woli 160-ci miljonnaha narodu swaju krywawuju dyktaturu.

Jašče bolšy alarm padymajecca ŭ świecie z pryčyny „hanieńniaŭ“ proci żydoŭ, jakija zmušajucca wytwaryŭšajusia sytuacyjaju da wyjazdu z Niamieččyny.

Ale i ŭ hetaj sprawie treba ŭziać pad uwahu, što wypirajuć ich adtul jak zusim niepażadany element i majuć na heta padstawy.

Z Niamieččyny ŭciakajuć żydy, katoryja zajmalisia tam lichwiarstwam, spekulacyjaj i handlam żywym tawaram, kamunistyčnaju ahitacyjaju, špijonstwam i inšymi sprawami, prynosiŭšymi škodu ŭsiamu hramadzianstwu. Napaśiedak, dla historyi żydoŭskaha narodu wydapki padobnyja niamieckim nawinoju być nia mohuć...

Toj rašučy ŭdar, jaki naniesieny kamunizmu ŭ niamieččynie i jaki wyklikaŭ wialiki pierapałoch u „demakratyčnaj“ Eŭropie,—maje charaktar śmiarotnaha ŭdaru i dla ŭsiej palityki kominternu naahuł — hetaja akaličnaść nas cikawić najbolej.

U praciahu hadoŭ i na wačoch usiaho świetu komintern balšawizawaŭ Kitaj, a z druhoha boku napružwaŭ usie wysiłki, kab wyklikać anarchiju ŭ Niamieččynie.

Plan byŭ prydumany dobra i zapraŭdy pry jaho źiziejśnieńni losy ŭsiaho świetu byli-b wyrašany akančalna.

Kamunistyčnaj pramysłowaj Niamieččynie razam z Sawieckaju Rasiejaju i sotniami miljonaŭ ludzkoha materyjału z Sawieckaha Kitaju — było-b dawoli kab u praciahu paru hadoŭ prywiaści ŭsiu ludzkaść pad kamunistyčny reżym.

Ale tut na pieraškodzie stała nacyjanalna-socjalistyčnaja rewalucyja ŭ Niamieččynie, katoraja pakryżawała ŭsie plany Kominternu i... wyklikała niezdawaleńnie proci siabie z boku tych, kaho ŭratawała ŭ pieršuju čarhu. Zapraŭdy, hety „demakratyčny“ świet dawoli niezrazumiełaja wiel čynia...

Da ŭsieahulnaj umysłowaj anarchii, panujučaj na świec e, šmat pryčyniajecca presa, katoraja budučy apanawanaja żydami starajecca skampramitawać nacyjanał-socyjalizm i ŭrabiać hramadzkuju apiniju ŭ wyhadnym dla semickaj rasy aświatleńni.

Adnak, nia hledziučy na ŭsio, ruchu zapačatkawanamu ŭ niamieččynie należyć wialikaja budučynia. Užo ciapier pa ŭsiamu świetu prašoŭ jak byccam elektryčny tok, jaki abudziŭ ludzkuju dumku i ŭliŭ u dušu narodaŭ nadzieju na lepšuju budučyniu.

Mylicca toj, chto nacyjanał-socyjalistyčny ruch zaličaje da reakcyjnych źjawiščaŭ i da pawarotu barbarstwa, ab čym tak hołasna kryčyć u nas kamunizujučaja i żydoŭskaja presa.

Naadwarot, nacyjanał-socyjalistyčnaja ideolohija adčyniaje pierad narodami bliskučyja histaryčnyja perspektywy ratujučy ich z taho tupiku, kudy jany zajšli.

Narody praniknuŭšyja hetaju ideolohijaju razaŭjuć swaje dadatnija nacyjanalnyja jakaści, pazbudučca adjomnych i prystupiać da pierabudowy isnujučaha hramadzkaha ładu na nowych i lepšych padstawach.

Z taho, što my wiedajem pra nacyjanał—socyjalizm u Niamieččynie—my bačym tam zapačatkawańnie zapraŭdy nowaj ery ŭ żyćci niamieckaha narodu. Na naradzie lideraŭ nacyjanał-socyjalistyčnaj partyi, jakaja adbyłasia ŭ červieni 1933'h, Hitler koratka akreśliŭ hałasnyja zadańni nacyjanał- socyjalistyčnaha ruchu, źwiedzienyja da 5 hałaŭniejšych punktaŭ nastupnaha źmiestu.

1. Pieradusim niamieckija nacyjanał-socyjalisty skasujuć usie palityčnyja partyi, jak marksoŭskija tak i buržuaznyja, ličučy što partyjnaść dawiedzienaja da krajnaści prywiała narody da zhuby.

2. Usie suwiazi internacyjanalnych elementaŭ heta zn. marksystaŭ, żydoŭ i masonaŭ bududć razburany, bo tolki dziarżawa maje prawa pradstaŭnictwa ŭ miżnarodnych znosinach.

3. Usie klasawyja, sasłoŭnyja i wyznaniowyja rożnicy buduć skasawany.

4. Liberalnaja i kapitalistyčnaja systema haspadarki budzie źlikwidawana.

5. Systema parlamentarnaj demakratyi budzie źništożana.

Toje, što pałożana ŭ padstawy hitleryzmu, z wialikaju dla siabie karyściu moża być zastasawana ŭsimi inšymi nar.dami. Heta, adnak nia značyć, što hitleraŭskaja prahrama nie patrabuje dapaŭnieńniaŭ u wypadkach jaje zastasawańnia inšymi narodami stasoŭna da lokalnych abstawinaŭ. Zrazumieła, što my nie mahli-b pahadzicca i z tymi planami „ekspansyi na ŭschod,“ ab jakich piśuć hazety i katoryja našyja ziemli pieratwaryli-b u zwyčajnyja kalonii.

Treba pryznač, što żyćcio narodaŭ zajšło ŭ taki „tupik“, z jakoha można wyjści zastasawaŭšy pryblizna takija srodki, katoryja my znachodzim u soc.—ekanamičnaj prahramie niamieckich nacyjanał—socyjalistaŭ.

„Reakcyjnaści“ bajacca nam nie prychodzicca, bo najhoršuju reakcyju mohuć nam pryniešci kamunisty.

Hetamu dokazam moża służyć sučasny Sawiecki Sajuz, dzie kamunisty swaimi krywawymi metadami kirawańnia dziarżaŭnym żyćciom i swaimi „socyjalistyčnymi“ mieraprыjemstwami ŭwaskrasili časy samaj dzikaj reakcyi.

Kali nastupiła epocha, što treba wybirać abo kamunu, abo toje, što kamunisty nazywajuć „socyjał-fašyzmam“ (jakoha jany tak bajacca) sumliwu pry wybary być nia moża.

A wybar hety rabić treba.

Buržuazna - kapitalistyčny ład z jahonym demakratyzmam swoj wiek adżyŭ. Zbankrutawaŭ marksyzm, katory pahubiŭ Rasieju i katory, amal nie dawioŭ da pahibieli Niamieččyny.

Hroznyja abstawiny, u jakich apynuŭsia świet, zmušajuć jaho šukać šlachoŭ da pierabudowy ŭsich pa…taŭ hramadzkaha i socyjalna-ekanamičnaha żyćcia. Taki šlach znajšła Niamieččyna. Niama ŭ nas sumliwu i ŭ tym, što zastasawańnie nacyjanalna-socyjalistyčnaj prahramy inšymi narodami moża pryniešci im tolki karyść

Ł. Połacki

# ТОЕ, ЧАГО ТРЭБА БЫЛО СПАДЗЯВАЦЦА

Газэты падалі вестку, якая павінна знайсьці адпаведную расцэнку сярод беларускага нацыянальна — думаючага грамадзянства. Выехаўшыя ў Саветы б. грамадаўцы і змаганцы Рак-Міхайлоўскі, Бурсэвіч, Мятла, Дварчанін, Валошын і Гаўрылік, будучы запрошаны туды Камінтэрнам засталіся арыштаванымі як контр-рэвалюцыянэры.

Галоўны кіраўнік і пасярэднік гэтай выяздной акцыі б. старшыня Грамады п. Тарашкевіч, які па загаду Камінтэрну падбухтарыў усіх да выязду, застаўся на волі і далей „вядзе незалежніцкую" працу, пратандуючы на ролю беларускага Гандзі...

Сталася, фактычна, тое—чаго й трэба было спадзявацца.

Камінтэрну залежала на збальшавізаваньні беларускіх народных масаў.

Гэта праводзілася праз Грамаду, Змаганьне і іншыя камунізуючыя арганізацыі. Зруйнаваўшы нац-беларускі рух на з-беларускіх землях і здэмаралізаваўшы грамадзянства, Камінтэрн забраў у „соцыялістычную бацькаўшчыну" сваіх агентаў з тым, аднак, каб пасадзіць іх у вастрогі.

Унешкадлівіць іх у гэтакі спосаб было патрэбным толькі дзеля таго, што як-бы тамні было яны зьяўляюцца беларусамі і адным фактам сваёй прысутнасьці на савецкай Беларусі, асабліва ў мамэнт жорсткай барацьбы з беларускаю нацыянальнаю ідэяю, маглі аказацца вельмі небясьпечнымі для камуністычных уладаў.

Толькі з гэтай прычыны іх і пасадзілі за краты, абвінавачываючы ў розных выдуманых праступках.

Няма сумліву, што жыдоўска-польская часгка камуністычнай партыі, адыгрываючая ў Б.С.С.Р. першую ролю, мела ў гэтай справе дэцыдуючы голас.

Справакаваўшы і пасадзіўшы ў вастрогі б. грамадаўскіх павадыроў, — камуністы пры дапамозе брашураў і праклямацыяў цынічна, зьдекуюцца над нашым грамадзянствам, даводзючы „контр-рэвалюцыйнасьць" тых, каго раней праклямавлі як герояў.

Нічога яны не ашукаюць.
Камунізуючы беларускі рух распачаўся з правакацыі і ёю мусіць саконччыцца.

Галоўным удзельнікам гэтай правакацыі быў Тарашкевіч разам з некаторымі іншымі сваімі сябрамі, асеўшымі ў Вільні і надзеўшымі бязпячнейшую сабе тогу „беларускай санацыі". Цікаўна было-б у гэтай справе паслухаць голас таго, хто яшчэ так нядаўна з лавы абвінавачаных выхваляў Саветы, даказываючы наіўным „простачком", што там буд ецца „Беларускі дом". Магчыма нешта й надумаецца сказаць, каб яшчэ раз пастарацца ашукаць беларускі народ. Але гэта бадай-ці ўдасцца, як удавалася раней.

Грамадзянства зразумела, што ўся камуністычная акцыя, якая вялася пад плашчом нацыянальнага адраджэньня, аказалася нічым іншым, як вялікаю правакацыяй Беларускага Народу, і арышт грамадаўцаў у Менску зьяўляецца яе завяршэньнем.

Мы не бярэмся бараніць арыштаваных, бо з імі здарылася тое, што яны павінны былі прадбачыць, выяжджаючы ў Саветы.

Напасьледак, не адны яны апынуліся за кратамі.

Яшчэ раней папалі туды іхнія вучні, каторыя паверылі сваім камуністычным павадырам і каторыя паўцякалі ў „Беларускі дом".

Але гэтыя арышты няхай будуць **апошняю перасьцярогаю** для нашага здэзорыентаванага грамадзянства, каторае чакае нечага добрага з Камуністычнага Ўсходу.

З гэтага моманту, які павінен быць паваротным у гісторыі беларускай грамадзкасьці, мы павінны павесьці актыўную процікамуністычную акцыю і бачыць у камуністых і іхніх прыслужніках лютых сваіх ворагаў.

Іншых вывадаў зрабіць немагчыма.

Мы лічым, што апошнія арышты прынясуць палітычнае аздараўленьне ў беларускім грамадзкім жыцьці, якое да апошніх часоў баламуцілася праз маскоўскіх агентаў.

Няма таго злога, што-б ня вышла на добрае...

# Ксяндзы на „Крэсах" і камуністы ў Б.С.С.Р.— апалячваюць беларусаў у... касьцёлах

У нас у Вільні арцыбіскуп Ялбжыкоўскі ўпарта трымаецца таго пагляду, што каталіцкая вера на „крэсах" ёсьць неадлучная польскасьці — усіх беларусаў-каталікоў змушае быць палякамі. Прыклад: падзеі ў Жодзішках, кс. праф. Рэшаць і шмат іншых.

Тое самае робяць у Савецкай Беларусі бальшавікі—беларусаў каталікоў лічаць палякамі. Прыклад: амаль усе каталіцкія касьцёлы перароблены на нацыянальна польскія клюбы. (Зьвязда", 1931 г. № 251 і 252).

Як бачым, адно ліха: даўней у касьцёлах беларусаў апалячвалі ксяндзы, цяпер у тыхжа самых касьцёлах, як польскіх камуністычных клюбах — апалячваюць бальшавіцкія камісары: палякі Домбалі, Ясеньскія, Жэброўскія і шмат іншых.

Вось як цяжка пазбыцца той палітычнай цемры, якою ачмуціў беларусаў польскі каталіцкі касьцёл. Нават бальшавікі ня могуць яе пазбыцца.

Сапраўды царква і касьцёл адыгралі і адыгрываюць ганебную ролю ў адносінах да беларускага народу.

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі. Галоўны рэд.: Рэдакцыйная Калегія

Odbito w drukarni K. Lewkowicza św. Michalski 14.